# Ад цішыні — д




Калі пачынаецца Вялікі пост, нібы адразу цішэе ўсё навокал. Цішэе ў нашых дамах, бо менш гамоніць тэлевізар, нават камп'ютар трохі цішэе, бо тата перастае гуляць «у танкі». Мама не слухае ў гэты час улюбёны свой шансон, а дзеці хоць і гуляюць, як і раней, толькі таксама трошкі цішэй.

Нядаўна Натальчына мама сказала, што сёлета нават яе дзень народзінаў святкаваць не будуць, бо Вялікі пост пачаўся вельмі рана.

— Як гэта? — не зразумела Натальчына сяброўка Каця. — Хіба пост адмяняе дзень народзінаў?

— Застолле ён адмяняе, — уздыхнула Наталька. — Вось і тата таксама не рады гэтаму! І ягоны сябрук, наш сусед, таксама не рады. Але што такое дзень народзінаў у параўнанні з вяселлем! Мая стрыечная сястра Ліза сабралася замуж выходзіць, падалі ў ЗАГС заяву, а калі сталі ўзгадняць са святаром дзень шлюбу, аказалася, што вызначаны дзень прыпадае на Вялікі пост. Ліза ажно расплакалася, бо яе сяброўка гэтак летась са сваім жаніхом перанесла дзень вяселля, а потым і зусім перадумалі жаніцца.

— Дык мо лепш цяпер перадумаць, чым потым? — устрэў тата ў размову дзяўчынак.

— Табе лёгка казаць! — успыхнула Наталька. — А Лізка вунь плача!

*Малюнак Аліны Мяльковай.*








...да гучнай радасці!



...Такі ён, наш Вялікі пост... Патрабуе да сябе ўвагі.

У гэты час мы больш думаем пра тое, што і як мы робім, чаму мы гэта робім, альбо чаму штосьці патрэбнае не зрабілі. Мы задаем самі сабе гэтыя пытанні, каб потым усё-усё сказаць Езусу на споведзі. Каб атрымаць прабачэнне за ўсё кепскае, што мы зрабілі. А таксама за тое добрае, чаго не зрабілі, хоць маглі зрабіць...

Але колькі ж радасці будзе ў Вялікую суботу, калі ксёндз стане асвячаць агонь, а мы ўсе запалім ад яго свае свечкі! Як голасна мы будзем усе разам спяваць на Вялікдзень: «Вясёлы дзень для нас настаў!..» Гэты спеў заўсёды падхопліваюць птушкі і разам з людзьмі таксама спяваюць, Бога праслаўляюць. Таму што Езус перамог смерць! Ён прыгарнуў усіх нас да сябе, бо ўзяў на сябе ўсе нашыя грахі!

Аллелюя!!!

*А. Барткевіч.*

*Малюнак Марыі Петух.*

*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 1 (71)/2016 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.*
*220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Касцёльны кансультант — кс. Дзмітрый Пухальскі, рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек, мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2;* **e-mail:** *m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 3 000 экз. Заказ № 1568.
Падпісана да друку 14.03.2016 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/116 ад 27.03.2014 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.

# Падман

## Урокі айца Віталія



— Аліса, а дзе твой шалік? — спытала мама.

Аліса з сёстрамі яшчэ не паспела распрануцца пасля вуліцы, дзе яны гулялі з сабакам Джэкам. І сапраўды: куды падзеўся той шалік? Мама нядаўна звязала яго для Алісы. А яшчэ ёсць гэткія ж прыгожыя шапка і рукавічкі. Ды вось шапка, рукавічкі ёсць, а шаліка... няма... Аліса мыла рукі і ўспамінала: яны бегалі з Джэкам, было горача... Аліса зняла шалік... А куды яго падзела? Мо на лаўцы дзе ляжыць? Ці пад кустом?

Што рабіць? Калі сказаць гэта маме, яна будзе сварыцца! І Аліса прыдумала:

— Ой, ведаеш, мама, там быў Грышка з суседняга пад'езда, ён дражніўся, а потым адабраў шалік і збег.

Мама абурылася. Тата таксама. Мама прапанавала тату схадзіць да суседзяў, але той пачаў аднеквацца, бо каму хочацца гэтых разборак? Можа лепш купіць новы шалік?

Сёстры павячэралі і пачалі складваць цікавыя пазлы. Пра здарэнне, вядома ж, забыліся. А мама не забылася. Яна ўсё ж настояла на сваім, і тата пайшоў у суседні пад'езд.

Вярнуўся ён адтуль пахмурны і адразу спытаў у дачкі:

— Навошта ты нагаварыла абы-чаго на Грышу?

Аліса зачырванелася, нібы тая прынцэса з замка на іхнім пазле, які яны толькі што склалі. Паспрабавала шукаць выйсце:

— А-а... можа я пераблытала, гэта, відаць, быў незнаёмы хлопец...

Тата сурова паглядзеў на Алісу, і яна апусціла галаву...

*Айцец Віталій Даніловіч, марыянін.*

I
Не май іншых багоў, апроч Мяне

II
Не ўжывай імя Пана Бога твайго дарэмна

III
Памятай дзень святы святкаваць

IV
Шануй бацьку свайго і маці сваю

VI
Не забівай



*Ну а што дзеці думаюць пра тое, чаму ўсім трэба выконваць восьмую запаведзь? Вось што гавораць юныя новапалачане.*



Казаць праўду — заўсёды надзейна. Я не хачу абманваць. Бо калі маё сэрца чыстае — у яго можа ўвайсці Езус.

*Марына Чарапові́ч, 8 гадоў.*




Той, хто наўмысна кажа пра іншага чалавека штосьці дрэннае, дзейнічае супраць волі Божай. Нельга гэтага рабіць!

*Насця Масальская, 9 гадоў.*



Езус заўсёды гаварыў праўду, таму і мы павінны браць з Яго прыклад.

*Ліза Чабоха, 10 гадоў.*



Калі мы хочам слухацца Бога, то не будзем рабіць тое, што Ён забараняе.

*Паліна Лазарэнка, 8 гадоў.*



У мяне не заўсёды атрымліваецца выконваць гэтую запаведзь, але я стараюся.

*Насця Банзекуліваха, 8 гадоў.*



Я не даношу і не абманваю, не выдумваю і не абмаўляю, хоць часам гэта і няпроста.

*Максім Ладзіс, 9 гадоў.*



Хто любіць Езуса, той не будзе казаць няпраўды пра іншага чалавека.

*Ліза Лемяшкевіч, 8 гадоў.*



Калі мы гаворым хлусню — Езусу сумна.

*Яна Лісоўская, 11 гадоў.*



Умешвацца ў чужое жыццё з няпраўдай нельга!

*Ганна Чабоха, 8 гадоў.*

**X**
**Не пажадай нічога, што належыць бліжняму твайму**

**IX**
**Не пажадай жонкі бліжняга твайго**

**VIII**
**Не сведчы фальшыва супраць бліжняга твайго**

**VII**
**Не крадзі**

**VI**
**Не чужалож**

*Падрыхтавала Марыя Ганчаронак.*

Кс. Ян Твардоўскі

# Не толькі пра ежу



У час велікодных святаў шмат гаворыцца пра ежу.

Хто бачыў, як матуля пячэ пірог?

Адзін хлопец, гледзячы, як матуля пячэ пірог, думаў не пра тое, як дапамагчы ў кухні, а пра тое, каб пасля выпякання з’есці яго самому:

*Апетыт я маю львіны*
*на пірог і на вяндліны,*
*ціха буду ўсё ўплятаць,*
*магу й міску аблізаць.*
*Незаўважна, пакрыёма*
*з’ем увесь куліч я дома.*



Адзін хлопец напісаў вершык:

*Ах, няшчасныя мы парасяты!*
*Што ўжо заўтрашні дзень*
*прынясе нам?*
*Вось ідуць велікодныя святы,*
*нас з'ядуць неўзабаве пад хрэнам.*

А яшчэ ён напісаў:

*За «мазурку» і за «бабку»*
*пацалуйма цётку ў лапку.*

І яшчэ:

*Хай кожны помніць пасля свята,*
*які ў яго быў стол багаты.*

Ежа — вельмі важная. Бацькам трэба столькі пабегаць, каб купіць штосьці лепшае. Ксёндз гэтую ежу асвячае: яйкі, хлеб... Асвячае як штосьці важнае, як святы абразок, бо ежа — гэта цуд. Дзіця есць хлеб, булку і потым расце. Чаму яно так расце? Бо есць. Ежа — гэта адзін з цудаў. Але нельга думаць толькі пра ежу.

Каго нам нагадвае велікодны баранак?

Самога Пана Езуса. Баранак слабы, безабаронны, і хоць мае рожкі на галаве, ваўкі яго могуць з'есці. Але на Вялікдзень слабы баранак мае чырвоную харугвачку, як жаўнер, што выйграў бітву.

У Вялікую пятніцу Езус ляжаў у магіле бледны, слабы, як баранак, загрызены ваўкамі, а ў нядзелю ўстае з магілы, усе радуюцца, спяваюць Пану Богу. Тое, што добрае, перамагло! Гэтак і матуля дома: часам ёй дакучаюць, маюць да яе прэтэнзіі, а яна — нібы бедны баранак. Потым матулю любяць, цалуюць — і яна быццам таксама займела чырвоную харугвачку.

Той, хто любіць, заўсёды будзе наймацнейшым і найважнейшым.

*Пераклала з польскай мовы Ганна Шаўчэнка.*

*Мастак Марцін Стжэмбош.*

*Паводле: Ks. Jan Tardowski. Wielkanocne idą święta. Wydawnictwo Święty Wojciech, Poznań, 2013.*



# *Божая Міласэрнасць*



Гэта адбылося 22 лютага 1931 года ў польскім горадзе Плоцку, у жаночым кляштары.

Сястра Фаўстына Кавальская так апісвае гэтую сустрэчу: «Вечарам, калі я была ў келлі, убачыла Пана Езуса, апранутага ў белае адзенне. Адна Яго рука была ўзнятая для благаслаўлення, а другая дакраналася да адзення на грудзях. Са складкі на грудзях сыходзілі два вялікія прамяні: адзін — чырвоны, а другі — бледны... Праз хвіліну Езус сказаў: «Намалюй абраз паводле выявы, якую ты бачыш, з подпісам: «Езу, давяраю Табе».

Сястра Фаўстына паслухалася Пана Езуса і зрабіла ўсё магчымае, каб гэты абраз быў намаляваны і распаўсюдзіўся па свеце. Мы яго ўшаноўваем як абраз Божай Міласэрнасці.

А яшчэ Пан Езус пажадаў, каб у першую нядзелю пасля Вялікадня кожны год адзначалася свята Божай Міласэрнасці. Гэта вельмі прыгожае свята. У гэты дзень мы з асаблівай удзячнасцю ўшаноўваем Божую Міласэрнасць і Яго любоў да кожнага чалавека. Мы ведаем, што Пан Бог першы палюбіў нас. А што ж мы? Ці адказваем мы Яму ўзаемнасцю? Калі ў цябе не заўсёды гэта атрымліваецца, папрасі ў Бога менавіта гэтай ласкі — любові да Яго і да твайго бліжняга.

3

*Пытанне*

А ці ведаеш ты, што азначаюць
два промні на абразе Езуса Міласэрнага?
Напішы нам.

***Бог судзіць будзе тайныя ўчынкі людзей…***

Рым 2,16

**Ірына Жарнасек**

# РАЗБІТАЯ ВАЗА

*Дзеці габрэяў, узяўшы галінкі алівы, выйшлі насустрач Пану і радасна ўсклікалі: «Гасанна Сыну Давіда!».*

— Стоп-стоп! — Галіна Антонаўна ўскідвае рукі. — Хіба вы радасна ўсклікаеце? Так толькі на пахаванні спяваюць! Альбо калі вельмі хочацца шакаладку, а яе ў прынцыпе быць не можа! Дзе ваша радасць?

Хор спрабуе чарговы раз выказаць тую патрэбную радасць і паўтарае: «Гасанна Сыну Давіда!».



І ў чарговы раз атрымліваецца пакуль што так сабе, а Алёшка зусім замаўкае. Яму сёння адно плакаць хочацца, бо сёння з'явіўся зноў на рэпетыцыі іхняга дзіцячага хору ягоны сябрук Юрка. З'явіўся — і ўвесь спакой, які ўжо быццам знайшоў Алёшка, нібы рукой зняло. Думаў — забыўся ўжо тое, што здарылася з імі на зімовых канікулах, калі неспадзявана пасля надакучлівай макрэчы выпаў снег і яны з Юркам шалелі тут паблізу касцёла ад радасці. Шалелі, пакуль тое  і не здарылася. Думаў, ужо задаўнілася тое здарэнне, можа й



абыдзецца. Ажно, аказваецца, не: не забылася яно, не задаўнілася.

...Алёшка з Юркам гулялі ў снежкі. Убачыла іх сястра Наталля і паклікала дапамагчы перанесці з кладоўкі ў падвал керамічныя вазы. Алёшка нёс вялізную шэрую вазу, а на ягоным шляху з'явілася раптам пакрытая ільдом сцежка. Алёшка, вядома, не змог яе абмінуць. Хлопчык пабег, набраў патрэбную хуткасць, разагнаўся і-і-і... грымнуўся вобземлю разам з ношай. Ваза — на тры кавалкі!.. А Юрка якраз выйшаў з падвала. Убачыў сябра з чарапкамі на сцежцы, кінуўся на падмогу ды і сам грымнуўся на коўзанцы побач з ім. Грымнуўся, заенчыў, за нагу схапіўся. Алёшка кінуў чарапкі, падаў яму руку, пацягнуў да сябе, а той штосілачкі: «Ой-ёй-ёй! Ай! Ай!».

Падбегла сястра Наталля, яшчэ жанчыны падаспелі, ды Юрка ні на каго не звяртае ўвагі — адно енчыць. Тады Алёшка і прамямліў сабе пад нос: «Нёс Юрка вазу, спяшаўся — і вось што выйшла!..». «Ды ліха з ёй, з гэтай вазай! — гукнула цёця Эма. — Абы з хлопцам во абышлося!». Алёшка гатовы быў расцалаваць цётку Эму за мудрыя словы. Бо што такое тая ваза ў параўнанні з сябравым енкам?! Усё скончылася тым, што Юрку забралі на «хуткай» у бальніцу ды зрабілі аперацыю на паламанай назе.

Алёшка праведаў пару разоў сябра за гэты час, але быў у яго нядоўга — знаходзіліся пільныя справы. Неяк... Цяжкавата было гаварыць... Не хацелася ўспамінаць...



Шмат разоў Алёшка рэпеціраваў, як ён скажа пра сваю выдумку Юрку і папросіць яго, калі што якое, маўчаць. І сапраўды — хіба не магло быць так, што гэта Юрка разбіў бы тую вазу? Нагу зламаць мог, а вазу разбіць — не? Вядома, мог! І нікому ў галаву не прыйшло б сварыцца на яго.

Калі Алёшка думаў гэтак дома — усё нібыта было гладка, нібы і насамрэч менавіта так усё і было. А калі прыходзіў да сябра і глядзеў, як той скача на мыліцах па кватэры, язык чамусьці не паварочваўся. Быццам, калі скажаш, то нібы на сябрукову нагу ў гіпсе яшчэ ў дадатак вазу



тую цяжкую падвесіш. Так і не сказаў. Усё адкладваў, адкладваў... Потым неяк часу не было наведаць сябра... Словам, не сказаў. А цяпер вось...

*«Дзеці габрэяў, узяўшы галіны...»*

— Алёша, ты чаму не спяваеш? Словы не вывучыў?

— Не вывучыў, — зманіў Алёшка.

Галіна Антонаўна прынесла аркуш з надрукаваным тэкстам:

— Я ж прасіла! Каб ў наступны раз абавязкова вывучыў! Паглядзі вунь на Юру — ён хварэў, а словы ведае.



Галіна Антонаўна ўскідвае рукі над клавішамі:

*«Дзеці габрэяў...»*

Алёшка адкрыў рот разам з усімі, але зноў не заспяваў.

— Аляксей!

А ён раптам... заплакаў.

Хор сціх. Галіна Антонаўна ўтаропілася на Алёшку:

— Што з табой, Аляксей?!

Ды ён крутнуў галавой і пабег па прыступках з хораў уніз. І ледзьве не збіў з ног сястру Наталлю, якая слухала іхні спеў, седзячы у касцёле, а цяпер вось падымалася на хоры, каб сказаць свае заўвагі.

— Гэта я... я разбіў вазу! — гукнуў ёй Алёшка і заплакаў.

Сястра Наталля абняла яго і... засмяялася:

— Малайчына — набраўся ўсёткі адвагі сказаць! — пацягнула яна яго за чупрыну. — У-у-у, даўно ты, хлопча, у цырульні не быў... Схадзі перад святамі.

— А... а чаму вы не здзівіліся? — запытаў Алёшка.

— Бо я бачыла на свае вочы, як там было, з той вазай.

— Што? І... маўчалі?

— А ці не важней тое, што ты сам пра гэта сказаў? — пацягнула сястра Наталля зноў Алёшку за чупрыну. — А як набраўся адвагі мне прызнацца, то ўжо прызнайся таксама і... Яму, — кіўнула сястра Наталля галавой ці то ў бок спавядніцы, ці то ў бок табэрнакулюма. І не адкладвай больш — праз тры дні Вербніца!

*Мастак — Вольга Чарняўская.*

# Яма

Неяк пастух пакрыўдзіў аднаго чалавека, а той раззлаваўся на яго і вырашыў адпомсціць. Ён ведаў, што пастух пасе свой статак там, дзе мала хто ходзіць. Чалавек вырашыў пайсці і выкапаць яму, каб пастух уваліўся ў яе. Позна ўначы ён пачаў капаць. Капаў і думаў, як ягоны крыўдзіцель уваліцца ў тую яму, зламае руку альбо нагу. Альбо калі не ён сам, то хоць бы зваліцца туды ягоная карова, авечка ці ўжо хоць бы каза.

Доўга так капаў, марыў пра помсту і не заўважыў, як сам выбрудзіўся ды так глыбока апынуўся, што без староннняй дапамогі ўжо і вылезці з ямы цяжка.

Так вось яно і бывае: калі хто капае яму іншаму, то найперш сам у гэтай яме апынецца. І можа здарыцца так, што вылезці з той ямы будзе вельмі цяжка.

*Малюнак Барбары Русанавай.*

*Сябры! Кожны наш дзень — падарунак ад Пана Бога. Як мы прымаем Ягоныя падарункі? Чым напаўняем іх? Што нам найбольш падабаецца альбо не падабаецца?*

*Героямі гэтай рубрыкі можаце стаць усе вы, калі раскажаце нам пра сябе самі альбо гэта зробіць за вас хтосьці са старэйшых. Пішыце пра тое, чым вы любіце займацца, з кім сябруеце, каму дапамагаеце, кім вы марыце стаць, калі будзеце дарослымі.*

*Расказвайце пра свае падарожжы, сустрэчы, мары. Словам, пра ўсё цікавае. Яго так шмат вакол нас! І дасылайце таксама здымкі — няхай і ўсе чытачы ўбачаць вас, а можа, і вашу сям'ю, сяброў. А сёння мы знаёмім вас з сястрой і братам Бартніцкімі.*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*




# Усё — разам

Наста і Глеб Бартніцкія жывуць у Мінску. Наста ходзіць у дзіцячы садок і два разы на тыдзень наведвае цікавыя заняткі, на якіх разам з настаўніцай і іншымі дзецьмі пазнае навакольны свет, выконвае розныя заданні, спявае, малюе. Малодшы брат Глеб большасць часу праводзіць з мамай дома — дапамагае ёй наводзіць парадак, а яшчэ часцей сам





стварае беспарадак. Ён таксама ходзіць на заняткі па гімнастыцы. Брат і сястра любяць адно аднаго, але спрэчкі паміж імі часам усё ж здараюцца. Праўда, яны навучыліся ў такіх выпадках прасіць прабачэння.



Ёсць у дзяцей верны сябар — Мозі. Ён мае даўгую чорна-рудую поўсць, маленькія вочкі, вострыя зубкі і кіпцюры. «Што за звер такі?» — спытаеце вы. Марская свінка! Дзеці любяць карміць Мозі і гуляць з ім. Харчуецца Мозі яблыкамі, морквай.

Дзеці часта просяць пачытаць ім казкі, а потым ахвотна малююць іх герояў. А яшчэ брат з сястрой вельмі любяць ездзіць у вёску да бабулі і дзядулі! Там можна выгуляць велізарнага сабаку Рыка, пакарміць яго, пачаставаць сваім пячэннем, падсыпаць зерня куранятам. Калі ж управішся з гаспадаркай, можна і на электрамабілі паездзіць. Ох, колькі там усяго цікавага! І таму не трэба здзіўляцца, што менавіта ў вёсцы адбываюцца з дзецьмі самыя неверагодныя прыгоды. Магчыма, калі-небудзь раскажам і пра гэта...

*Кацярына Стасюлевіч*





# Наш «Кошык міласэрнасці»



У гэты Год Міласэрнасці Папа Рымскі Францішак асаблівым чынам заклікае нас рабіць міласэрныя ўчынкі: дапамагаць бедным, хворым, тым, хто трапіў у бяду. Ці ўмеем мы быць міласэрнымі і добрымі? Зрэшты, ці ўмеем мы заўважаць патрэбы іншых людзей? Бо ў жыцці ж яно і так можа быць: ты бачыш, што некаму цяжка ў гэты час, але што ты тады робіш? Дапаможаш таму чалавеку альбо проста паспачуваеш і пойдзеш сваёй дарогай? Як нам навучыцца адгукацца на чужую бяду?

Для таго, каб дзеці прывучалі сябе дапамагаць іншым, спачуваць ім, любіць іх, мы ў нашай парафіі ў Браславе ў часе Вялікага посту вырашылі паставіць «Кошык міласэрнасці». Мы прапанавалі дзецям пісаць пра свае добрыя справы ў запісках і складваць іх у кошык, каб яны і самі не забыліся, што добрага паспелі зрабіць, і каб іншыя таксама даведаліся пра гэта.



Я зазірнула ў наш кошык недзе ў сярэдзіне Вялікага посту. І вось што я там убачыла. Дзеці пісалі пра свае добрыя справы. Пра тое, як яны спачуваюць людзям, якія трапляюць у бяду, церпяць галечу, пра тых, у каго няма прыгожых цацак, хто не мае магчымасці вучыцца ў школе. Дзеці моляцца за іншых людзей. Згадзіцеся: гэта вельмі добрая справа — маліцца за іншага чалавека!

Напрыклад, Ганна Наўгародская піша, што яна ахвотна наведвае хворых. Сабіна Букей і Насця Сасноўская пішуць пра тое, што ў часе Вялікага посту яны асабліва вучацца прабачаць іншаму чалавеку ўсе крыўды. Міхась Шульгоўскі напісаў, што ён расказвае пра Хрыста тым людзям, якія Яго яшчэ не ведаюць. А Антон Лібік вельмі ўдзячны Пану Богу за тое, што на стале ў ягонай роднай хаце заўсёды ёсць смачная ежа. Хлопчык моліцца за тых дзяцей, якія церпяць голад і не маюць надзейнага жытла.

Шмат добрых спраў зрабілі дзеці за час Вялікага посту. Вельмі хочацца, каб яны не забываліся пра гэта і ў велікодны, і ў звычайны перыяды года. І нават тады, калі закончыцца Год Міласэрнасці, таму што быць хрысціянінам трэба кожны дзень.

*Сястра эўхарыстка Таццяна Гмыза.*

*Сябры! Пішыце нам пра справы міласэрнасці, у якіх удзельнічаеце вы самі альбо якія робяць вашы знаёмыя. Дасылайце таксама здымкі пра вашыя добрыя справы.*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



# Разам з дарослымі

Калі гэты нумар часопіса трапіць у вашыя рукі, дарагія чытачы, будзе ўжо вясна. Напэўна ж, снег, сцюжа, холад застануцца адно ўспамінамі. Але для кагосьці гэта будуць і прыемныя ўспаміны, бо ў часе холаду, калі так добра было б прасядзець у цёплай хаце, многія з вас перамагалі гэтае жаданне і выходзілі на холад. Як, напрыклад, гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі, якія ўдзельнічалі разам са сваімі татамі і мамамі, бабулямі і дзядулямі ў зімовай урачыстасці ў Росіцы.

Росіца — асаблівае месца ў Беларусі. У гэтай вёсцы ў гады Другой сусветнай вайны нямецкія карнікі спалілі 1 528 чалавек. Страшная лічба. Два адважныя святары — Антоні Ляшчэвіч і Юры Кашыра — прынялі разам з усімі вяскоўцамі смерць, хоць нямецкія карнікі прапаноўвалі ім застацца жыць. Але святары не пажадалі прыняць такога дарагога падарунка. Яны захацелі памерці разам з усімі. Было сярод тых, хто згарэў у агні, таксама шмат дзяцей. Дзяцей, якія так і не сталі дарослымі...

Таму прысутнасць дзяцей на ўрачыстасцях у Росіцы асабліва патрэбная і важная. І зімой, калі ў вялізным росіцкім касцёле вельмі холадна, і летам, калі ў Росіцу з







розных куткоў Беларусі ідуць пілігрымы, каб вучыцца тут заставацца хрысціянамі ў любых жыццёвых сітуацыях. Нават тады, калі гэта вельмі цяжка. Так, як было цяжка прыняць сваё рашэнне айцам Антонію Ляшчэвічу і Юрыю Кашыру.

Пан Бог з радасцю прымае кожны наш добры ўчынак, кожную перамогу над нашымі слабасцямі. Безумоўна, Яго таксама вельмі парадавалі тыя дзеці, якія разам з дарослымі былі на сёлетнім свяце ў Росіцы. Тыя, што прыехалі на аўтобусах альбо машынах, альбо прыйшлі ў касцёл разам са старэйшымі, бо яны жывуць там, у Росіцы, альбо ў суседніх вёсках.

Так што, адвагі, сябры! Не будзем баяцца холаду! Не будзем баяцца нязручнасцяў! Будзем любіць Пана Бога і Яго святых сваімі ўчынкамі!

*І. Студзеньская.*
*Фота Кацярыны Лаўрыненкі.*



# Гульні Загадкі



## ЗАГАДКІ З БІБЛІІ

Сябры!

Рады вітаць вас чарговымі нашымі загадкамі з Бібліі. Як навучыцца правільна іх разгадваць? Абавязкова напачатку трэба папрасіць Святога Духа дапамагчы ў гэтай справе. Бо менавіта Святы Дух натхняў аўтараў кніг Старога і Новага Запаветаў на іх напісанне. Да яго мы молімся таксама і просім, каб мы з Яго дапамогай добра разумелі Божае слова. Не забывайцеся пра гэта, сябры!

- Назаві пяць прыпавесцяў з Евангелля, якія расказваў Езус сваім слухачам. Калі зробіш малюнак хоць да адной прыпавесці – будзе вельмі добра.
- Прыгадай, дзе ў Евангеллі ідзе гаворка пра дзяцей. Такіх месцаў ёсць некалькі. Можаш назваць хоць бы адно. Але назаві дакладна адрас.
- У якім Евангеллі аўтар расказвае пра тое, як Пан Езус абмыў сваім вучням ногі?
- Якім спевам віталі людзі Пана Езуса, калі Ён урачыста ўехаў у Ерузалем? На якім «транспарце» Ён гэта зрабіў?
- Як звалі таго чалавека, які дапамог Езусу несці крыж на Галгофу? Як ты думаеш, ці можам мы сёння таксама дапамагаць Езусу несці крыж?
- Хто першы даведаўся пра тое, што Езус уваскрос пасля сваёй смерці?
- Напішы першыя словы Уваскрослага Хрыста, якія Ён сказаў тым, хто Яго шукаў.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

Адказы на **Загадкі, змешчаныя ў № 4 за 2015 г.**

**«Загадкі з Бібліі»:** ва ўлонні маці, у часе сустрэчы Найсвяцейшай Панны Марыі з Лізаветай; Збаўца; Анёл Панскі, мы часта молімся гэтай малітвай за нашых памерлых; пры сустрэчы Марыі з Лізаветай; «Благаслаўлёны Пан, Бог Ізраіля...»; сына назвалі Янам; «Слава на вышынях Богу і на зямлі спакой людзям добрай волі», Лк,2.




**Рэбус:** Пастэрка.

**«Гарады Беларусі»:** Полацк – самы старажытны горад, Высокае – самы заходні горад, Мінск – самы вялікі горад, Верхнядзвінск – самы паўночны горад, Нароўля – самы малады горад, Дзісна – самы маленькі горад Беларусі.

**Заданне:** Першая Эўхарыстыя ў свеце адбылася ў Вячэрніку, на Апошняй Вячэры. Яе цэлебраваў сам Езус Хрыстус, на ёй прысутнічалі апосталы.

На жаль, сябры, у гэты раз кожны з вас дапусціў памылку. Таму нашы ўзнагароды будуць чакаць вас пасля гэтага нумара.

*Некаторыя з вас не заўважылі ў гэты раз* **Задання** *і не адказалі на яго. А некаторыя адказвалі толькі на* **Загадкі з Евангелля**. *Нагадваем, што трэба адказваць на ўсе нашы пытанні, якія змешчаныя ў часопісе. На ўсе, дзе стаяць зорачкі з лічбамі, якія азначаюць балы. Будзьце, калі ласка, уважлівыя!*

*Асаблівая дзякуем за правільныя адказы на* **Загадкі з Евангелля Алене Латышовай і Веры Тупарэвіч** *з Друйскага дзіцячага дома, а таксама* **Надзеі Шаляпёнак** *з Друі, якая дапусціла адну недакладнасць.*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

# Крыжаванкі

## ЦІ ВЕДАЕШ ТЫ СВАЮ КРАІНУ?




### ГЕРБЫ БЕЛАРУСІ











**Сябры!**
**Вы бачыце гербы гарадоў і пасёлкаў Беларусі. Назавіце гэтыя гарады і пасёлкі, а таксама адкажыце, хто ўпрыгожвае гэтыя гербы.**



5 *Рэбус*

Разгадай рэбус і даведаешся, да чаго заклікаў нас Пан Езус падчас Апошняй Вячэры.


Б


І Е




Д А


Г Т


Я


П А Ю


Ў


С



*Рубрыку вядзе*
*Марыя Ганчаронак*



*Нашы рукі да працы гатовы*

# Атрымаўся чалавечак...

*Касцёл – гэта вялікая Божая сям'я, у якой усе мы – Божыя дзеці. Езус Хрыстус кожнага з нас моцна любіць і заклікае, каб мы дзяліліся паміж сабой любоўю і радасцю.*

Прапаную вам, сябры, зрабіць некалькі вясёлых чалавечкаў, а можа нават і цэлую сямейку. Вядома, яны не заменяць нам нашых рэальных братоў і сясцёр, але для кагосьці могуць стаць добрым падарункам.

**Нам спатрэбяцца:**

1. Пластыкавыя лыжкі.
2. Прыгожыя сурвэткі.
3. Побытавы шнурок.
4. Клей.
5. Нажніцы.
6. Фламастары.
7. Рознакаляровыя стужкі.
8. Ніткі.
9. ДОБРЫ НАСТРОЙ.







Бярэм побытавы шнурок і адразаем столькі, колькі нам будзе патрэбна на рукі для будучых чалавечкаў. Потым завязваем яго на вузел на лыжцы так, каб нашыя рукі былі аднолькавай даўжыні. З прыгожай сурвэткі робім трохкутнік, кладзем на яго лыжку і захінаем канцы. Пры гэтым карыстаемся клеем, каб кашулька не развалілася. Потым возьмем прыгожую стужку і завяжам яе так, як каму падабаецца, – гэта будзе шалік. Наш чалавечак амаль гатовы. Малюем вочкі, носік і роцік. Памятайма, што Бог заклікае нас радавацца, таму пастараемся намаляваць прыгожую ўсмешку. З нітак зробім прычоску і акуратна прыклеім.

Вось і ўсё: наш чалавечак гатовы!!! Зараз яго можна падараваць таму, каму сёння сумна, альбо ў каго мала сяброў.





# Галерэйка

Князёўны Беларусі. Яны жылі ў розныя стагоддзі, апраналі вельмі прыгожыя строі, любілі музыку, літаратуру, мастацтва. Такімі іх бачаць нашы мінскія мастакі.

Феліцыя Оанцэ, 7 гадоў.



"Катаржына Радзівіл".



"Елізавета Кішка (Радзівіл)".



"Елізавета Сафія Радзівіл".

Вераніка Шыла, 8 гадоў.



"Марыя Радзівіл".



"Елізавета Сафія Радзівіл".



"Барбара Радзівіл".

У афармленні матэрыялаў нумара прымалі ўдзел юныя мастакі з ДУА «Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка» (майстэрня Г. Хінкі-Янушкевіч).



*Малюнак Марыны Рудчык.*